 

# ВЫСОКАРОДНАЯ ПРАФЕСІЯ

Электрычная лямпа раскідае праменні па ўсім пакоі. Найбольш іх падае на стол, на якім ляжаць стопкі вучнёўскіх сшыткаў, падручнікі, газеты. За сталом сядзіць чалавек і пераглядвае сшыткі. Твар яго робіцца вясёлым, калі правільна развязаны задачы, а калі няправільна, дык ён нахмурыцца, і ў той час відны нават маленькія маршчынкі, якія паклала на яго жыццё, праца.

Кіраўнік сямікласнай беларускай школы ў Парцаве (Бельскі павет) Язэп Альшэўскі разумее, што адстаюць вучні са слабой воляй, бесхарактарныя, якія апускаюць рукі нават перад нязначнымі перашкодамі і цяжкасцямі. І такія вучні патрабуюць, безумоўна, індывідуальнага падыходу.

Аб гэтым кіраўнік неадной чы прыпамінае ўсім настаўнікам сваёй школы.

— Настаўнік павінен перш за ўсё, — кажа Язэп Альшэўскі, — знайсці ў вучня добрыя якасці і, абапіраючыся на іх, ліквідаваць нядобрыя рысы ў характары, схільнасцях і прывычках.

Як прыклад прыводзіць ён такі факт. Вучаніца М. Г. у мінулым дрэнна вучылася, была адной з самых адстаючых у школе. Але, калі па яго загаду ўсе настаўнікі пачалі працаваць над ёю, калі сталі ўмацоўваць у вучаніцы веру ў свае сілы і прывіваць зацікаўленнасць да вучэбных заняткаў, да ведаў, дык М. Г. перастала прапускаць урокі і пачала лепш вучыцца. Цяпер, яна з'яўляецца адной з лепшых вучаніц VІ класа.

Як перадавому педагогу таварышу Альшэўскаму характэрна дакладнае ўяўленне таго, што фармаванне светапогляду дзяцей — гэта складаны грамадскі працэс, у якім скрэшчваюцца ўплывы школы, сям'і, таварышаў.

— Трэба актыўна змагацца, — правільна сцвярджае Язэп Альшэўскі, — каб ўплыў школы зрабіць пануючым.

А для гэтага патрабуецца веданне кожнага ўплыву і ўменне ўсільваць або паралізаваць яго, прыдаваць яму патрэбны кірунак, у залежнасці ад задач выхавання. І тут неабходна прадуманная сістэма ў рабоце з бацькамі.

І ў гэтым Язэп Альшэўскі дабіўся поспехаў.

Бацькі вучня Р. нязгодна жылі паміж сабою. Бацька напіваўся гарэлкі, біў жонку, дзяцей. Паводзіны маці таксама былі часта лёгкадумнымі.

(Працяг на стар. 3)

Cena 60 gr | Цана 60 гр.

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 47 (195) | БЕЛАСТОК 22 ЛІСТАПАДА 1959 ГОДА | ГОД IV

# З ДЗЕІНАСЦІ КПЗБ НА ТЭРЫТОРЫІ САКОЛЬСКАГА ПАВЕТА

## І) ЯК КПЗБ ДАПАМАГАЛА МОЛАДЗІ САКОЛЬСКАГА ПАВЕТА

Пясчаныя ўзгоркі, лясы, густыя шнуркі межаў, якія раздзяляюць між сабой паасобныя палоскі — вось краявід нашай Сакольшчыны. На гэтых пясках і палосках нарадзілася на працягу год нямала галечы, нямала было там і крыўды. Усё гэта разам узятае накіроўвала думкі людзей на незаўсёды вясёлыя разважанні.

Калі ўзнікла КПЗБ, яна знайшла на тэрыторыі Сакольскага павета шматлікіх прыхільнікаў. Па вёсках арганізоўваліся ячэйкі. Больш свядомыя сяляне ішлі ў партыю, таму што бачылі ў ёй адзінага абаронцу ад эксплаатацыі з боку польскай буржуазіі.

У нашым павеце было шмат моладзі. Ніхто не клапаціўся аб тым, каб моладзь мела якія-небудзь культурныя развесяленні, каб магла вучыцца на якіх - небудзь курсах. А вядома, моладзь як моладзь, пакінутая на ўласны лёс пачынала піць, на забавах ішлі ў рух нажы, спружыны, калкі. Пасля гэтага паліцыя і суды мелі работу, багата сыпаліся судовыя прыгаворы. І так працягвалася з года ў год.

Калі разгарнулася ў нашым павеце дзейнасць КПЗБ, партыя інакш пачала глядзець на моладзь. Камуністы стараліся прыцягнуць яе да сябе. Партыя старалася скіраваць буйны тэмперамент моладзі на адпаведную дарогу, дарогу барацьбы супроць буржуазіі, цемнаты і адсталасці. У ячэйках адбываліся нарады, прысвечаныя працы сярод моладзі.

Старыя камуністы, якія ў 1917 годзе прымалі ўдзел у звяржэнні царскага ладу і ўстанаўленні ўлады рабочых і сялян, як найбольш вопытныя, прыступілі да працы. Былі арганізаваны індывідуальныя і калектыўныя гутаркі моладзі, вышукваліся што ахвярнейшыя хлопцы і дзяўчаты, якія ўцягваліся да працы. Моладзь пачала вывучаць рэвалюцыйныя песні і першыя праўды сацыялізма.

Найбольш папулярнай песняй, якая распаўсюдзілася ў нашым павеце, была песня «Ад веку мы спалі»...

Дзейнасць КПЗБ не была дарэмнай. У 1932 годзе на тэрыторыі нашага павета ўзнік Раённы камітэт КСМЗБ. Маладзёжныя ячэйкі ўзніклі ў вёсках Хамантоўцы, Русакі, Ласіняны, Крушыняны і іншых. Першым сакратаром раённага камітэта быў тав. Ян Пармонік з вёскі Ёдзічы (цяпер БССР), які заставаўся на гэтым становішчы да моманту яго арышту, гэта значыць да 1936 г. З ўзнікненнем КСМ жыццё моладзі ў нашым павеце пацякло іншым руслам. Пад уплывам дзейнасці арганізацыі пачало знікаць п'янства і нажы на забавах; маладыя, як таварыш да таварыша, пачалі адносіцца па-іншаму.

Моладзь зразумела вартасць навукі, пачала дамагацца беларускіх школ, актыўна дапамагала ўзнікшаму ТБШ.

Вясковыя забавы, народныя сзяты і іншыя зборы моладзі КСМ выкарыстоўваў для вядзення палітычнай прапаганды. Праводзіліся гутаркі і дыскусіі на тэмы светапогляду, рэлігіі і іншыя. Моладзь распаўсюджвала па аколіцы адозвы і друк. У 1934—37 гады мы так арганізавалі працу моладзі ў нашым раёне, што ўдалося нам правесці па вёсках некалькі масавых мітынгаў, на кожным з якіх прысутнічала не менш 150 маладых юнакоў і дзяўчат.

Свята 1 мая моладзь адзначала заўсёды вельмі ўрачыста, развешваючы ў шматлікіх месцах (зразумела, крадучыся) чырвоныя сцягі і палотнішчы. Не малы ўклад унесла моладзь з КСМ у арганізацыю забастовак накіраваных супроць мясцовых памешчыкаў (аднак на гэтым затрымаюся шырэй у далейшым).

Варта ўспомніць тых таварышаў з КПЗБ, якія адыгралі найбольшую ролю ў выхаванні моладзі Сакольскага павета, ва ўзнікненні КСМ. Гэта былі та-

(Працяг на стар. 3)



З выстаўкі народнай творчасці ў Беластоку. Двайняк Ул. Галецкага з Клішчэляў.

 

# ГАСПАДАРСКІЯ КЛОПАТЫ

Павятовыя рады нарадовыя маюць многа розных гаспадарчых клопатаў на сваіх тэрыторыях. Але не ўсе яны дбайна падыходзяць да арганізацыі развіцця сельскай гаспадаркі. Вось, напрыклад, насельніцтва Грамадскай рады нарадовай Саколда (Сакольскі павет) ўжо доўгі час скардзіцца на недахоп скупачнага пункта малака. А трэба сказаць, што кароў тут гаспадары гадуюць многа, бо маюць нядрэнныя пашы. Рабіць масла дамовым спосабам і вазіць яго прадаваць у Беласток не аплачваецца гаспадыням, бо і далёка і шмат часу патрэбна патраціць. Карацей кажучы, недахоп скупачнага пункта малака не заахвочвае гаспадароў да развіцця жывёлагадоўлі. Кожны гаспадар хоча мець карысць і даход з таго, што гадуе. А тут не можа быць і гутаркі аб гэтым, бо няма збыту на малако. Гаворыцца аб гэтым амаль на кожным вясковым сходзе.

Старшыня ГРН дакладаў аб існуючым становішчы павятовым уладам ў Саколцы, але, як дагэтуль, нічога, усё па-старому. Дарога ў Беласток добрая, машыны могуць ездзіць хутка і можа гаспадары горада Беластока памаглі б развязаць гэтую справу гаспадарам Сакольскага павета.

*

У вёсках ГРН Саколда сяляне скардзяцца таксама на недахоп ветэрынарнага пункта. Найбліжэйшы знаходзіцца ў Крынках, у адлегласці звыш 20-ці кіламетраў. Не трэба гаварыць, колькі клопатаў маюць жыхары гэтых вёсак з лячэннем хатняй жывёлы. А калі зайдзе патрэба пазваць ветэрынарыйную карэтку хуткай дапамогі з Саколкі, дык трэба заплаціць каля 300 зл. Гэта ж выдатак не малы. А выпадкаў з жывёлай многа. Таму часта гаспадары вымушаны адказваць ад лячэння хатняй жывёлы. (мк)

## У Плёсках моладзь узялася за работу



На здымку: Праца пры ўпарадкаванні святліцы.

Наша вёска Плёскі даволі вялікая. Моладзі ў нас многа, а сярод яе шмат талентаў. Дзяўчаты з нашай вёскі вельмі прыгожа співаюць. Ёсць і свая святліца, аб якой дагэтуль ніхто не клапаціўся. Стаяла яна асірацелая на сярэдзіне вёскі. Вокны былі павыбіваны, многа было бруду. Проста аб ёй ніхто не дбаў. Народная прыказка гаворыць, што як дбаем так і маем. У вёску перастала нават прыязджаць кіно.

Ці плёскаўская моладзь будзе адставаць ад іншых вёсак? Я думаю, што не. Чынам хлопцы ўзяліся за працу і адрамантавалі святліцу. Зрабілі прыгожы ганак, атынкавалі і памалявалі сцены. Варта цяпер падумаць плёскаўскай моладзі аб арганізацыі самадзейнага гуртка.

ПЕЦЯ ІВАНЮК

Фота аўтара

## Школа сельскагаспадарчай падрыхтоўкі ў Дубінах

Існуючая ў Дубінах (Гайнаўскі павет) школа сельскагаспадарчай падрыхтоўкі 25 кастрычніка ўрачыста адзначыла заканчэнне школьнага года. Школу наведвала 28 слухачоў, з якіх 1 клас закончыла 16 асоб і II клас — 12.

Праграма святкавання была багатай: уручэнне пасведчанняў, уручэнне ўзнагарод найлепшым слухачам, супольны прыём і танцы.

На ўрачыстасць заканчэння школьнага года, апрач. сабраўшыхся тут жыхароў Дубін, прыбылі прадстаўнікі павятовых улад як старшыня Прэзідыума ПРН у Гайнаўку Вечаслаў Унучко, сакратар павятовага камітэта ЗСЛ Міраслаў Фальтын, загадчык аддзела сельскай і лясной гаспадаркі Міхал Хмель. Ва ўрачыстасці ўдзельнічалі таксама дырэктар школы Аляксандр Самойлік і выкладчыкі Валянцін Іванюк, Станіслаў Бараньскі і Леона Бай.

Пасля кароткіх прамоў і ўручэння слухачам пасведчанняў, выдатнікі вучобы, атрымалі кніжныя ўзнагароды. Узнагароды ўручаны, між іншым, выдатнікам вучобы Яну Сіняковічу і Яну Браслоўскаму.

Пасля прыёму ўзнесены тосты за здароў'е вучняў, выкладчыкаў і прыбыўшых гасцей, якія найбольш садзейнічалі арганізацыі школы ў Дубінах.

У палове лістапада будзе створаны III клас з абраных напрамкаў навукі — агародніцтва і садаўніцтва, і плануецца арганізацыя пры школе курса вадзіцеляў самаходаў і матацыклаў. У новым школьным годзе прадугледжваецца значны ўзрост моладзі, зацікаўленай навучаннем у школе сельскагаспадарчай падрыхтоўкі.

І. ДЗЕЦЯНТКОЎСКІ

Гайнаўка



Выкладчыкі і слухачы СПР (школа сельскагаспадарчай падрыхтоўкі) ў Дубінах.

# У МАЛАДЫЯ ГАДЫ

РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

1

Праз два месяцы пасля майго прыезду дахаты пайшлі падзеі за падзеямі, нібы ў кінахроніцы. 1 верасня 1939 г. пачалася вайна Германіі з Польшчай. Потым прыйшла Чырвоная Армія. І тут пачалося. Доўга я адчуваў сябе, нібы пасажыр, які едзе поездам з хуткасцю сто кіламетраў у гадзіну: мільгалі нейкія вобразы, але не было часу добра на іх паглядзець, ні пасмакаваць.

Аднак пра Крысю я не забыўся.

Хоць ужо вучыўся ў іншым горадзе, летам 1940 г. сабраў я трохі грошай на дарогу і прыехаў ў Вільна. Знайшоў хату цёткі Антосі. Жанчына паведаміла, што Крыся як паехала тады з маці ў Швейцарыю, так і не вярнулася. Яшчэ параіла схадзіць да аднаго чалавека, які нядаўна вярнуўся з Румыніі.

Калі ў мінулым годзе маленькая польская армія, як магла, па-геройску, супраціўлялася нямецкай навале, усе вышэйшыя чыноўнікі ўцяклі ў Румынію. Магчыма, туды ўцёк і генерал. У такім выпадку ён мог бы за граніцай знайсці сям'ю, і тады Крысю не было б чаго і чакаць.

У Вільні мне тады яшчэ сказалі, што Браніслава Любецкага нашы вывезлі ў Казахстан, беднай Яніне выбухам нямецкай бомбы адарвала ногі.

Генрыха Станеўскага спаткаў у кампаніі выфранчаных гультаёў. Яны гуртам хадзілі па вуліцах горада і зубаскалілі, калі ім удавалася ўбачыць салдата з мангольскім тварам.

2

Зімой 1943 года стаялі мы кіламетраў семдзесят на поўначны ўсход ад Гродна ў Друскеніцкім лесе. Партызанскі аэрадром быў у Літве. Атрымаў я за-

— 80 —

данне дастaвіць з аэрадрома тое, што нам прыслалі з Масквы. Узяў хлопцаў і пакіраваўся да возера, на лёдзе якога садзіліся самалёты.

Праз дзён пяць прыбылі мы на месца. З «Дугласа» ўжо выкладалі запакаванае ў брызент партызанскае дабро. Да прадстаўніка злучэння па чарзе падыходзілі камандзіры груп, ён дзяліў бразентавыя кіпы. Я таксама прымасціўся ў чаргу. Ад няма чаго рабіць узіраўся на дзяўчыну.

Яна стаяла збоку і зграбным носікам пускала ў настылае паветра дзве струйкі пары Ад марозу і балотнай сырасці барты новага кажушка, зграбная вушаначка моцна заінелі. Белыя валёнкі і вопратка былі без ніводнай плямкі, з іголачкі, напаміналі недасяжны тылавы дастатак і спакой. У дзіцячым тварыку прабівалася пашана і наіўнае захапленне шчаслівымі партызанамі, якія падхоплівалі брызентавыя мяшкі і ладавалі ў сані або стараліся зрабіць надпіс на слізкіх алюмініевых баках пакрытага ялінай самалёта.

«Захапляешся партызанскай рамантыкай! Добра, што хутка вернешся самалётам назад і не адведаеш нашага жыцця з сабачым скуленнем на снезе праз сон, з вошамі, са скуламі і горкім расчараваннем няўдач!» — падумаў я. Яшчэ падумаў, што такая мабыць ладная была б і Крыся, каб пераапрануць ва ўсё вайсковае. У мяне заныла сэрца. Ад чэрвеньскага вечара, калі лазіў на ясень, мінула амаль чатыры гады. Ды прайшло столькі здарэнняў.

— Вам радыстка! — дзелавіта перабіў мяне прадстаўнік злучэння, паказаўшы рукой на аўтаматчыцу. — Бярыце!

«Вось табе і на» — пашкадаваў я, чаму замест

— 81 —

бездапаможнай дзяўчынкі не дастаў лепш мяшок толу. З ёй толькі клопатаў набярэшся.

Маё расчараванне ўбачыў прадстаўнік. Ён яшчэ раз пакапаўся ў спісках:

—Атрад Чапаева? Дзе ён у мяне тут запісаны... Ага, вось. Ну? Чаго чакаеце? Вам радыстка — адна, рацыя — адна. Вунь, яны стаяць. Барташэвіч, бяры і марш! Хутчэй! Трэба адпраўляць самалёт і разыходзіцца, пакуль фрыцы не засеклі і не накрылі...

У іншым выпадку я сабе не дазволіў бы нагрубіць дзяўчыне. Але цяпер, пасля дарогі, галодны на такім марозе, што зліпала ў носе, я быў злосны і раздражоны. Расчараваным голасам загадаў сваім хлопцам:

— Айда, браць рацыю!

— Я сама, — неспадзявана цвёрда запярэчыла радыстка і закінула металёвую скрынку ў зялёным футляры за плечы.

На яе глядзелі дзесяткі пар мужчынскіх вачэй, дзяўчына з разгубленай паспешнасцю пачала зашпільваць на грудзях рамяні. Зноў я ўспомніў Крысю. Стала шкада радыстку. Я назваў сябе і прапанаваў:

— Давайце, дзяўчынка, пазнаёмімся.

— Не дзяўчынка, а дзяўчына! Мяне зваць Станіслава Эдвардаўна Дварэцкая, — і, узнімаючы на мяне шэрыя, з заінелымі расвічкамі вачаняты, яна яхідна падкрэсліла: — Таварыш Дварэцкая.

— Ух, ты-ы-ы, ну і нарваўся! — паспачуваў мне адзін хлапец.

Але ніхто не засмяяўся. Нам раптам зрабілася сорамна. Мы адчулі вінаватасць перад гэтым сімпатычным госцем з Вялікай зямлі.

— 82 —

3

Ну і незвычайная ж была дарога ў лагер!

Нібы кожнаму хлопцу маёй групы доктар упрыснуў цудоўнае ўзбуджальнае лякарства, і яно памаладзіла, распаліла людзей. Ні перад гэтым, ні пасля так заліхвацка не сядзелі на галовах маіх хлопцаў аблезлыя кубанкі з чырвонымі істужкамі наперадзе. Мароз пёк агнём, але ніколі так, як цяпер, не былі расхрыстаныя грудзі. Кожны нібы казаў гэтым: а ну, каторы з нас найбольш не баіцца холаду! Усе стараліся вярцецца перад Стасінымі вачыма. Нават перасталі лаяцца. А калі праходзілі вёску, адзін перад другім галантна прапаноўвалі Стасі цудам здабытае малако, сыр. Я сваіх хлопцаў ведаў добра. Кожны з іх падчас днявання замярзаў да смерці, але будана сабе не рабіў. То не было чым, то не было з чаго. А для радысткі пасля кожнага начнога пераходу ў момант сплятaлі шалашык такі, што любота адна!

— Таварыш Трухан, чаму вы мяне не будзілі на пост, калі падышла мая змена? — прачнуўшыся, распрамянёная ад цеплыні ва ўхутаным плашч-палаткамі шалашыку, нападала вечарам радыстка на партызана.

— Стасечка, родная, далібог забыў! — захлынаючыся ад шчасця, казаў хлопец, па партызанскай звычцы ўжо называючы яе на «ты».

— Заўтра я дзяжуру і за сябе і за вас! — падкрэслена на «вы», гаварыла пакрыўджаная радыстка.

— Ладна.

Але на заўтра паўтаралася тое самае.

(Працяг будзе)

— 83 —

